Апублікована ў „Dzienniku Ustaw" Польскай Рэспублікі
6 сьнежня 1921 г. за № 110, пазыцыя 728-я.

# ТРАКТАТ

паміж Галоўнымі саюзнымі і ставарышанымі Дзяржавамі ды Польшчаю, падпісаны ў ВЭРСАЛІ 23 чэрвеня 1919 г. і ратыфікованы законам 31 ліпня 1919 г. (Dz. Ust. № 35|20, паз. 199).

З польскага тэксту пераложыў

К. М.




Друкарня С. Бакэра. Вільня, Субач 2.
1924.

АПУБЛІКОВАНА Ў „DZIENNIKU USTAW“
ПОЛЬСКАЙ РЭСПУБЛІКІ
6 сьнежня 1920 г. за № 110, пазыцыя 728-я.

# ТРАКТАТ

паміж Галоўнымі саюзнымі і ставарышанымі Дзяржавамі ды Польшчаю, падпісаны ў ВЭРСАЛІ 28 чэрвеня 1919 г. і ратыфікованы законам 31 ліпня 1919 г. (Dz. Ust. № 35|20, паз. 199).

---

З польскага тэксту пераклажыў
К. М.

ВІЛЬНЯ 1924.

# ТРАКТАТ

ПАМІЖ

ГАЛОЎНЫМІ САЮЗНЫМІ і СТАВАРЫШАНЫМІ ДЗЯРЖАВАМІ

ды

ПОЛЬШЧАЮ,

падпісаны ў ВЭРСАЛІ 28 чэрвеня 1919 г.

---

*Пераклад.*

**Злучаныя Штаты Амэрыкі, Брытанская Імпэрыя, Францыя, Італія й Японія,**

Галоўныя саюзныя і ставарышаныя Дзяржавы

з аднаго боку;

і **Польшча**

з другога боку;

Дзеля таго, што саюзныя і ставарышаныя Дзяржавы, дзякуючы ўдачы свае зброі, вярнулі Польскаму Народу незалежнасьць, якой быў несправядліва пазбаўлены;

Дзеля таго, што Расейскі Урад адозваю 30 сакавіка 1917 г. згадзіўся на паварот незалежнага Польскага Гаспадарства;

Што Польскае Гаспадарства, якое цяпер фактычна спраўляе сувэрэнітэт над часьцямі быўшага Царства Расейскага, заселенымі ў большасьці Палякамі, ўжо прызнана Галоўнымі саюзнымі і ставарышанымі Дзяржавамі, як сувэрэннае і незалежнае Гаспадарства;

Дзеля таго, што на аснове Мірнага Трактату, зробленага з Нямеччынай саюзнымі і ставарышанымі Дзяржавамі, Трактату падпісанага Польшчаю, некаторыя тэрыторыі быўшага Нямецкага Царства будуць далучаны да тэрыторыі Польшчы;

Што, як гаворыць спомнены Мірны Трактат, граніцы Польшчы, якія ў ім яшчэ не установлены, маюць быць вызначанымі пасьля Галоўнымі саюзнымі і ставарышанымі Дзяржавамі;

Злучаныя Штаты Амэрыкі, Імпэрыя В. Брытаніі, Францыя, Італія і Японія з аднаго боку, пацьвярджаючы сваё прызнаньне Гаспадарства Польскага, установленага ўва ўспомненых граніцах, як сябра сям'і народаў сувэрэннага і незалежнага, а таксама хочучы запэўніць выпаўненьне 93 артыкулу спомненага Мірнага Трактату з Нямеччынай;

З другога боку Польшча, жадаючы прыстасаваць свой лад да прынцыпаў волі й справядлівасьці, а таксама даць бязумоўную гарантыю ўсім жыхаром тэрыторыяў, над якімі абняла сувэрэнітэт;

З гэтай мэтаю **Высокія Дагаворныя Староны** ў асобе сваіх Прадстаўнікоў, якімі зьяўляюцца:

за **Прэзыдэнта Злучаных Штатаў Паўночнай Амэрыкі:**

Вяльможны Woodrow WILSON (Вудро ВІЛЬСОН), **Прэзыдэнт Злучаных Штатаў**—дзеючы як ад свайго ўласнага імя, так і ад імя свае ўлады;

Вяльможны Robert LANSIG (Робэрт ЛЯНСІНГ), Дзяржаўны сэкрэтар;

Вяльможны Henryk WHITE, быўшы над'звычайны Амбасадар і упоўнаважнены Злучаных Штатаў у Рыме і ў Парыжы.

Гэнэрал Tasker H. BLISS, Ваенны Прадстаўнік Злучаных Штатаў у Найвышэйшай Ваеннай Радзе;

за **Яго Каралеўскую Вялікасьць, Караля Злучанага Каралеўства Вялікай Брытаніі й Ірляндыі і Брытанскіх Тэрыторыяў за морамі, Імпэратара Індыі:**

Яснавяльможны Dawid LLOYD GEORGE (Давід ЛЕЙД-ДЖОРДЖ), M. P., Першы Лёрд Скарбу і Першы Міністар;

Яснавяльможны Andrew BONAR LAW, M. P., Лёрд Прыватнай Пячаткі;

Яснавяльможны Віцэ-граф MILNER, G. C., G. C. M. G., Дзяржаўны Сэкрэтар для Калёніяў;

Яснавяльможны Artur James BALFOUR, O. M., M. P., Дзяржаўны Сэкрэтар для Загранічных справаў;

Яснавяльможны George Nicol BARNES, M. P., Міністар без портфэля.

А таксама:

за **Dominium Канады**:

Вяльможны Пан Charles Joseph DOHERTY, Міністар Справядлівасьці;

Вяльможны Artur Lewis SIFTON, Міністар Мытаў;

за **Commonwealth Аўстралійскі**:

Яснавяльможны William Morris HUGHES, Гэнэральны Пракурор і Першы Міністар;

Яснавяльможны Пан Joseph COOK, G. C. M. G., Марскі Міністар.

за **Паўднёва-Афрыканскі Саюз**:

Яснавяльможны Гэнэрал Louis BOTHA, Міністар Унутраных Справаў і Першы Міністар;

Яснавяльможны Гэнэрал-Лейтэнант Jan Christiaan SMUTS, K. C., Міністар Абароны Краю;

за **Dominium Новай Зэляндыі**:

Яснавяльможны William Ferguson MASSEY, Міністар Працы і Першы Міністар;

за **Індыю**:

Яснавяльможны Edwin Samuel MONTAGU, M. P., Дзяржаўны Сэкрэтар для Індыі;

**Яго Княжаўская Высокасьць** Гэнэрал - Майор Magaradża Sir Sanga Singh Bahadur Maharadża BIKANERU, G. C., S. I. G. C. I. E., G. C. V., K. C. B., A. D. C.;

за **Прэзыдэнта Французскай Рэспублікі:**

Пан Georges CLEMENCEAU (Жорж КЛЕМАНСО), Старшыня Рады Міністраў, Міністар Вайны;

Пан Stephen PICHON (С. ПІШОН), Міністар Загранічных Справаў;

Пан Louis-Lucien KLOTZ, Міністар Фінансаў;

Пан Andre TARDIEU, Гэнэральны Камісар ваенных франка-амэрыканскіх справаў;

Пан Jules CAMBON, Амбасадар Францыі;

за **Яго Каралеўскую Вялікасьць Караля Італіі:**

Барон S. SONNINO, Дэпутат;

Маркграф G. IMPERIALI, Сэнатар, Амбасадар Я. К. В. Караля Італіі ў Лёндане;

Пан S. KRESPI, Дэпутат;

за **Яго Імпэратарскую Вялікасьць Японскага Імпэратара:**

Маркграф SAIONZI, быўшы Старшыня Рады Міністраў;

Барон MAKINO, быўшы Міністар Загранічных Справаў, Сябар Дыплёматычнае Рады;

Віцэ-граф CHINDA, над'звычайны Амбасадар і упоўнаважнены Я. І. В. Японскага Імпэратара ў Лёндане;

Пан K. MATSUI, над'звычайны Амбасадар і упоўнаважнены Я. І. В. Японскага Імпэратара ў Парыжы;

Пан K. IJUIN, над'звычайны Амбасадар і упоўнаважнены Я. І. В. Японскага Імпэратара ў Рыме;

за **Прэзыдэнта Польскай Рэспублікі:**

Пан Ignacy J. PADEREWSKI, Старшыня Рады Міністраў, Міністар Заграні́чных Справаў;

Пан Roman DMOWSKI, Прэзэс Польскага Нацыянальнага Камітэту;

Па абмене імі поўнамоцтваў, прызнаных добрымі й акуратнымі па форме, згадзіліся на ніжэйпаданыя пастановы:

## РАЗЬДЗЕЛ І.

### АРТЫКУЛ 1.

Польшча абавязваецца, што пастановы, заключаныя ў артыкулах 2 да 8 гэтага Разьдзелу, будуць прызнаны за правы прынцыпіяльныя (fondamentales), што ніякі закон, ніякае распараджэньне, і ніякая ўрадовая дзейнасьць ня стане ў супярэчнасьці або праціўнасьці да гэтых пастановаў, што ніякі закон, ніякае распараджэньне ані так-

сама ніякая ўрадовая дзейнасьць ня будзе мець насупроць ім моцы.

## АРТЫКУЛ 2.

Польскі Урад абавязваецца даць усім жыхаром бяз розьніцы ўраджэньня, нацыянальнасьці мовы, расы ці рэлігіі поўную і цэлую ахову жыцьця і волі.

Усе жыхары Польшчы будуць мець права вольнага выпаўняньня практык (exsercice), як публічна, так і прыватна, кожнай веры (foi), рэлігіі (religion) або вераваньня (croyance), паскольні гэтыя практыкі ня будуць у нязгодзе з публічным парадкам і добрымі звычаямі.

## АРТЫКУЛ 3.

Польшча прызнае за польскіх грамадзян, паводлуг права й бяз ніякіх фармальнасьцяў, тых грамадзян нямецкіх, аўстрыяцкіх альбо расейскіх, якія ў момэнт набраньня гэтым Трактатам абавязальнай моцы, маюць заўсёднае пражываньне (domiciliès) на тэрыторыі прызнанай або якая будзе прызнана за складную часьць Польшчы, аднак з захаваньнем усіх уласьцівых пастановаў Мірных Трактатаў з Нямеччынай альбо Аўстрыяй датычна асобаў, што маюць заўсёднае пражы-

ваньне на гэтай тэрыторый пасьля пэўнае акрэсьленае даты.

У кожным выпадку вышэйпералічаныя асобы, якія маюць больш як 18 гадоў, будуць магчы на варунках, прадбачаных у пералічаных Трактатах, зрабіць выбар (option) кожнае іншае прыналежнасьці, для іх даступнае. Выбар зроблены мужам, расьцягвацца будзе таксама на жонку, падобна да гэтага, выбар бацькоў будзе расьцягвацца на дзяцей, ніжэй 18 гадоў.

Асобы, якія зрабілі вышэйсказанае права выбару, павінны будуць ў працягу 12 чародных месяцаў, паскольк̇і Мірны Трактат з Нямеччынай ня мае ў сабе праціўных гэтаму пастановаў, пераясьці сваё заўсёднае месца пражываньня ў Гаспадарства, за выбар якога выказаліся. Пазволена ім будзе захаваць нярухомую маемасьць, якую маюць на тэрыторыі Польшчы. Будуць магчы забраць з сабою ўсялякага роду рухомую маемасьць. Ніякія мытныя вывазныя падаткі ня будуць на іх з гэтай прычыны накладацца.

## АРТЫКУЛ 4.

Польшча прызнае за Польскіх грамадзян у сілу самага права і бяз ніякіх фармальнасьцяў асобы нямецкай, аўстрыяцкай, вэнгерскай ці ра-

сейскай прыналежнасьці, што радзіліся на спомненай тэрыторыі ад бацькоў, там-жа заўсёды пражываўшых, хаця-ж бы ў момэнт, калі гэты Трактат набярэ абавязальнай моцы, самі ня мелі там заўсёднага пражываньня.

У кожным выпадку, ў працягу двох гадоў ад часу набраньня гэтым Трактатам абавязальнай моцы яны будуць магчы заявіць перад адпаведнымі польскімі ўладамі ў краі свайго месцапрабываньня (residence), што зракаюцца польскае прыналежнасьці і тады пакінуць быць лічанымі за польскіх грамадзян. У гэткім выпадку заява мужа будзе лічыцца маючай моц дзеля жонкі, а таксама заява бацькоў будзе лічыцца маючай моц для дзяцей, ніжэй 18 гадоў.

## АРТЫКУЛ 5.

Польшча абавязваецца не рабіць ніякіх перашкодаў у выпаўненьні права выбару, прадбачанага ў Трактатах, зробленых альбо ў тых, якія маюць быць зробленымі саюзнымі і ставарышанымі Дзяржавамі з Нямеччынай, Аўстрыяй, Вэнгрыяй альбо Расеяй і пазваляючага зацікаўленым асобам набываць польскую прыналежнасьць, альбо іі не набываць яе.

## АРТЫКУЛ 6.

Польскую прыналежнасьць набывае ў сілу самага права, церaз самы факт нараджэньня на тэрыторыі Польшчы, кожны, каму ня прыслужвае пяршынство карыстаньня іншаю прыналежнасьцяй.

## АРТЫКУЛ 7.

Усе польскія грамадзяне бяз розьніцы расы, мовы альбо рэлігіі будуць роўнымі перад правам і карыстаць будуць з тых самых правоў цывільных і палітычных.

Розьніца ў рэлігіях, вераваньнях (croyance-creed) альбо вераспавяданьні не павінна шкодзіць ніводнаму польскаму грамадзяніну ў карыстаньні цывільнымі і палітычнымі правамі, ласьне, калі йдзе аб дапушчэньне да публічных урадаў, абавязкаў і гонараў, альбо аб выпаўненьні розных профэсіяў і промыслу.

Ня будзе выдана ніякага абмежаваньня вольнага ўжываньня польскім грамадзянінам якое-нібудзь мовы у зносінах прыватных альбо гандлёвых, ці таксама ў справах рэлігійных, прэсавых альбо ў публікацыях ўсялякага роду, альбо на сабраньнях публічных.

Бяз увагі на ўстанаўленьне Польскім Урадам мовы ўрадовае, маюць быць зроблены поль-

скім грамадзянам іншае мовы, чымся польская, адпаведныя палягчэньні ў ужываньні іхняе мовы ў судох як вусна, так і пісьменна.

## АРТЫКУЛ 8.

Польскія грамадзяне, якія належаць да меншасьцяў этнічных (etniger-racial), і рэлігійных альбо языковых, будуць карыстацца гэткім самым трактаваньнем і гэткімі самымі законнымі, а таксама фактычнымі гарантыямі, як і іншыя польскія грамадзяне. Ласьне, будуць мець роўныя правы закладаць, вясьці і кантраляваць уласным коштам дабрачынныя, рэлігійныя альбо грамадзкія інстытуцыі, школы й іншыя выхаваўчыя заклады, а таксама права вольнага ўжываньня ў іх уласнае мовы і вольнага выпаўняньня ў іх практык свае рэлігіі.

## АРТЫКУЛ 9.

У местах і вакругох (districts), заселеных (ou reside) значнаю часткаю грамадзян іншае, чымся польская, мовы, Польскі Урад дасьць, у справах публічнага навучаньня, адпаведныя палягчэньні, каб у пачатковых школах запэўніць даваньне дзецям гэткіх грамадзян навукі на іх уласнай мове. Гэтае пастанаўленьне

не перашкодзіць польскаму Ураду зрабіць абавязковым навучаньне польскае мовы ў гэтых школах.

У местах і вакругох, заселеных значнаю часткаю польскіх грамадзян, якія належаць да этнічных, рэлігійных ці языковых меншасьцяў, гэтым меншасьцям будзе запэўнены слушны удзел у карыстаньні (benefice-enjoyment), а таксама ў прызначаньні (affectation-application) сум, якія бюд'жэт дзяржаўны, бюд'жэты гарадзкія ці іншыя прызнаюць з публічных фондаў на выхаваўчыя, рэлігійныя альбо дабрачынныя мэты.

Пастановы гэтага артыкулу будуць мець прытарноўваньне да польскіх грамадзян нямецкае мовы толькі ў тых часьцях Польшчы, якія 1 жніўня 1914 году складалі нямецкую тэрыторыю.

## АРТЫКУЛ 10.

Школьныя камітэты, вызначаныя на месцы жыдоўскімі гмінамі ў Польшчы, запэўняць, пад агульным кантролем Гаспадарства, разьдзел прапарцыянальнае часьці публічных фондаў, прызначаных на жыдоўскія школы, згодна з 9-м артыкулам, таксама як арганізацыю і кіраўніцтва гэтых школ.

Пастановы 9-га артыкулу датычна ўжываньня моваў у школах прытарноўвацца будуць да названых школаў.

## АРТЫКУЛ 11.

Жыды ня будуць прымушацца да выпаўняньня якіх-нібудзь дзеяньняў, што зьяўляліся-б парушэньнем шабашу і не павінны дазнаваць якоганібудзь паменшаньня свае праўнае здольнасьці, калі адмовяцца зьявіцца ў суд ці выпаўніць праўныя дзеяньні ў дзень шабашу. Аднак-жа, гэтая пастанова не звальняе жыдоў ад абавязкаў, накладзеных на усіх польскіх грамадзян з пагляду на неабходнасьці ваеннае службы, нацыянальнай абароны, альбо ўтрыманьня публічнага парадку.

Польшча выражае замер не загадаваць і не даваць пазваленьня на выбары — ці то агульныя, ці лёкальныя (мясцовыя) — якія меліся-б адбывацца ў суботу; ніякае ўпісваньне (inscription) у выбарныя альбо іншыя сьпіскі не павінна адбывацца абавязкова ў суботы.

## АРТЫКУЛ 12.

Польшча згаджаецца, каб пастановы папярэдніх артыкулаў, пасколькі датычаць асобаў, што належаць да расавых, рэлігійных, альбо языковых меншасьцяў, зьяўляліся абавя-

заньнямі міжнароднага значэньня і былі адданы пад гарантыю Лігі Народаў. Ня будуць яны мець магчымасьці быць зьмененымі бяз згоды большасьці Рады Лігі Народаў. Злучаныя Штаты Амэрыкі, Брытанская Імпэрыя, Францыя, Італія й Японія абавязваюцца не адмаўляць свайго пазваленьня на якую-нібудзь зьмену вышэйшых артыкулаў, якая-б знайшла ў належнай форме згоду большасьці Рады Лігі Народаў.

Польшча згаджаецца, каб кожны Сябар Лігі Народаў меў права зьвяртаць увагу Рады на пераступ альбо на небясьпеку перастулу якога-нібудзь з гэтых абавязаньняў, а таксама, каб Рада магла пастуціць такім чынам і даць такія інструкцыі, якія прызнае за ўказаныя і патрэбныя ў даных акалічнасьцях.

Затым Польшча згаджаецца, каб у выпадку розьніцы зданьняў у пытаньнях права альбо дзеяньняў, прадбачаных гэтымі артыкуламі, зайшоўшай паміж Польскім Урадам і каторай - нібудзь з Галоўных саюзных і ставарышаных Дзяржаваў ці якой - нібудзь іншай дзяржавай — Сябрам Рады Лігі Народаў, гэтая розьніца лічылася спрэчкаю міжнароднага характару, згодна з галашэньнем 14 артыкулу Дагавору Лігі Народаў. Польскі Урад згаджаецца, каб розныя спрэчкі гэтага роду былі па жаданьню другое староны

перадаваны заўсёднаму Трыбуналу Справядлівасьці. Рашэньні заусёднага Трыбуналу будуць безапэляцыйнымі і будуць мець тую самую моц і вартасьць, што і рашэньні, выданыя на аснове 13-га артыкулу Дагавору.

---

## РАЗЬДЗЕЛ II.

### АРТЫКУЛ 13.

Кожная з Галоўных Саюзных і Ставарышаных Дзяржаваў з аднаго боку і Польшча з другога боку будзе магчы назначыць у адпаведных сталіцах дыплёматычных Прадстаўнікоў, таксама як і ў местах і портах сваіх тэрыторыяў Гэнэральных Консуляў, Консуляў, Віцэ - Консуляў і консулярных Агентаў.

У кожным выпадку Гэнэральныя Консулі, Консулі, Віцэ-Консулі і консулярныя Агенты будуць магчы ўвайсьці ў урадаваньне толькі тады, калі ў звычайнай форме будуць дапушчаны Урадам, на тэрыторыю якога яны высланы.

Гэнэральныя Консулі, Консулі, Віцэ-Консулі і консулярныя Агенты будуць карыстацца ўсімі прывілеямі, звальненьнямі і ўсякага роду імунітэтамі, якія ёсьць альбо будуць запэўнены консулярным агентам найбольш упрывілеёванага народу.

## АРТЫКУЛ 14.

Да часу, пакуль польскі Урад ня выдасьць мытнага тарыфу, тавары, якія паходзяць з саюзных і ставарышаных Гаспадарстваў, ня будуць пры ўвозе ў Польшчу падлягаць паборам вышэйшым, чымся выносяць найкарысьнейшыя паборы, прытарноўваныя пры ўвозе гэтых тавараў паводлуг мытнага тарыфу нямецкага, ці аўстра-вэнгерскага, ці расейскага, абавязковага ў дзень 1 ліпня 1914 году.

## АРТЫКУЛ 15.

Польшча абавязваецца не заключаць ніводнага Трактату, Конвэнцыі а ні паразуменьня і не прадпрымаць нічога гэткага, што-бы ёй перашкодзіла мець удзел ўва ўсялякіх агульных Конвэнцыях, якія-б маглі быць зроблены пад кіраўніцтвам Лігі Народаў з мэтаю справядлівага трактаваньня гандлю іншых Гаспадарстваў у працягу пяцёх гадоў ад момэнту набраньня гэтым Трактатам абавязальнае моцы.

Польшча абавязваецца таксама расьцягнуць на ўсе саюзныя і ставарышаныя Гаспадарствы ўсялякія льготы і прывілеі, якія-б у мытных справах пазволіла за час гэтага пяцьгацовага пэрыяду якому-нібудзь з Гаспадарстваў, з якімі ад жніўня

месяца 1914 году саюзныя і ставарышаныя Гаспадарствы былі ў палажэньні вайны, ці якому іншаму Гаспадарству, якое-б заключыла з Аўстрыяй спэцыяльны мытны дагавор, прадбачаны ў Мірным Трактаце, які будзе зроблены з Аустрыяй.

## АРТЫКУЛ 16.

Аж да заключэньня вышэйназванай агульнай Конвэнцыі Польшча абавязваецца трактаваць нароўні з нацыянальнымі караблямі ці з караблямі найбольш упрывілеёванага Народу, караблі ўсіх саюзных і ставарышаных Гаспадарстваў, якія даюць польскім караблём аналёгічнае трактаваньне.

У відзе вынятку з гэтае пастановы выразна прызнаецца Польшчы, а таксама ўсім саюзным і ставарышаным Гаспадарствам права засьцярогі свайго прыбярежнага гандлю для караблёў нацыянальных.

## АРТЫКУЛ 17.

Пакуль не адбудзецца, пад кіраўніцтвам Лігі Народаў, заключэньне агульнай Конвэнцыі, якая мае запэўніць і ўтрымаць свабоду камунікацыі й транзыту, Польшча абавязваецца даць на польскай тэрыторыі, ўлучаючы ў гэта тэрыторыяльныя воды, свабоду транзыту, для асобаў, тавараў, караблёў,

вазоў, вагонаў і паштовых транспартаў, праяжджаючых транзытам ад ці да якога-нібудзь з саюзных і ставарышаных Гаспадарстваў, таксама што датычыць палягчэньняў, цяжараў, абмежаваньняў і ўсялякіх іншых справаў, трактаваць іх прынамсі з роўнымі паглядамі, як асобы, тавары, караблі, вазы, вагоны, паязды й паштовыя транспарты Польшчы, альбо іншае найбольш упрывілеёванае нацыі, паходжаньня, імпорту альбо ўласнасьці.

Усе цяжары, накладаныя ў Польшчы на гэты транзытны гандаль, павінны быць умяркованыя, з увагаю на варункі гэтага гандлю. Транзытныя тавары будуць вольнымі ад усялякіх мытных ці іншых аплатаў. Агульныя тарыфы для транзытнага гандлю праз Польшчу, таксама супольныя тарыфы паміж Польшчаю і якім-нібудзь з саюзных ці ставарышаных Гаспадарстваў, што дапушчалі-б беспасрэдныя білеты альбо фрахты, будуць устаноўлены, калі гэтага напраўду зажадае даная саюзная ці ставарышаная Дзяржава.

Свабода транзыту будзе расьцягвацца на паштовую, тэлеграфную й тэлефонную службу.

Разумеецца, што ніводнае саюзнае ці ставарышанае Гаспадарства ня будзе мець права дамагацца дабрадзейства гэтых пастановаў для якой-нібудзь часьці свае тэрыторыі, на якой у гэтым прадмеце не дае ўзаемнага трактаваньня.

Калі ў прапягу пяцьгадовага пэрыяду ад моманту набраньня гэтым Трактатам абавязальнае моцы, агульная, вышэй прадбачаная, Конвэнцыя ня будзе заключана пад кіраўніцтвам Лігі Народаў, дык Польшча ў кожную мінуту будзе мець права палажыць канец пастановам гэтага артыкулу з варункам, што загадзя папярэдзіць аб гэтым за 12 месяцаў Гэнэральнага Сэкрэтара Лігі Народаў.

## АРТЫКУЛ 18.

Да часу, пакуль не адбудзецца заключэньне агульнае Конвэнцыі датычна міжнароднага ўпарадкаваньня водных дарог, Польшча абавязваецца прытарноўваць да рачное сыстэмы Віслы (ўлучаючы ў гэта Буг і Нараў) парадак, акрэсьлены ў 332 да 337 арт. Мірнага Трактату з Нямеччынай для міжнародных водных дарог.

## АРТЫКУЛ 19.

Польшча абавязваецца прыступіць у працягу 12 месяцаў ад дня заключэньня гэтага Трактату да міжнародных Конвэнцыяў, пералічаных у Анэксе I.

Польшча абавязваецца прыступіць да ўсіх новых конвэнцыяў, робленых з апробатаю (ада-

брэньнем) Рады Лігі Народаў у працягу пяцёх гадоў ад момэнту набраньня гэтым Трактатам абавязальнае моцы і маючых заступіць адну з Конвэнцыяў, пералічаных у Анэксе I.

Польскі Урад абавязваецца паведаміць у працягу 12 месяцаў Гэнэральны Сэкрэтарыят Лігі Народаў, ці Польшча хоча ці ня хоча прыступіць да аднае з дзьвёх Конвэцыяў, пералічаных у Анэксе II.

Аж да часу прыступленьня да дзьвёх апошніх Конвэнцыяў, пералічаных у Анэксе I, Польшча абавязваецца пад варункам узаемнасьці, запэўніць сапраўднымі спосабамі (skutecznemi środkami) гарантыі ўласнасьці прамысловай, літэратурнай і мастацкай грамадзян саюзных і ставарышаных Гаспадарстваў. У выпадку, калі-б адно з саюзных альбо ставарышаных Гаспадарстваў не прыступіла да вышэйшых Конвэнцыяў, Польшча згаджаецца й далей запэўняць у гэтых варунках сапраўдную ахову аж да часу заключэньня трактату альбо спэцыяльнага з гэтай мэтаю двастароннага паразуменьня з названым саюзным ці ставарышаным Гаспадарствам.

Да часу, пакуль Польшча ня прыступіць да іншых Конвэнцыяў, названых у Анэксе II, запэўніць яна грамадзянам саюзных і ставарышаных

Дзяржаваў карысьці, якія-б ім былі прызнаны на моцы вышэйсказаных Конвэнцыяў.

Апрача таго Польшча згаджаецца, пад варункам узаемнасьці, прызнаць і ахоўваць усе правы, што датычаць уласнасьці прамысловае, літэратурнае і мастацкае, належачае да грамадзян саюзных і ставарышаных Дзяржаваў, правы якія-б належалі, альбо маглі належаць ім, калі-б не пачалося непрыяцельскіх крокаў на ўсёй тэрыторыі, якая становіцца польскаю. З гэтай мэтаю Польшча прызнае ім дабрадзейства тэрмінаў, указаных у 307 і 308 артыкулах Трактату з Нямеччынай.

## АНЭКС І.

### Тэлеграфныя й радыятэлеграфныя Конвэнцыі.

Міжнародная тэлеграфная Конвэнцыя, падпісаная ў Ст.-Пецярбургу 10/22 ліпня 1875 году.

Рэгулямін міжнароднае службы і тарыфы, устаноўленыя міжнароднаю тэлеграфнаю Конвэнцыяй у Лісабоне 11-га чэрвеня 1908 г.

Радыятэлеграфная Конвэнцыя 5 ліпня 1912 г.

### Конвэнцыі, што датычаць чугунак.

Конвэнцыі й паразуменьні, падпісаныя ў Бэрне 14 кастрычніка 1890 году, 20 верасьня

1893 г., 16 ліпня 1895 г., 16 чэрвеня 1898 г. 19 верасьня 1906 г., таксама бягучыя дадатковыя распараджэньні, выданыя на аснове гэтых Конвэнцыяў.

Паразуменьне 15 мая 1886 г. аб спосабе замыканьня вагонаў, могучых прайсьці праз мытную камору і пратакол 18 мая 1907 г.

Паразуменьне 15 мая 1886 г. аб тэхнічнай аднолітасьці дарог і жалезнадарожнага матар'ялу, зьмененае 18 мая 1907 году.

### Санітарныя Конвэнцыі.

Конвэнцыя 3 сьнежня 1903 г.

### Іншыя Конвэнцыі:

Конвэнцыя 26 верасьня 1906 г. аб забароне начное працы для жанчын, занятых у прамысловасьці.

Конвэнцыя 26 верасьня 1906 г. аб адмене ўжываньня белага фосфару пры фабрыкацыі сернікаў.

Конвэнцыя 18 мая 1904 г. і 4 мая 1910 г. аб прасьледаваньні гандлю жывым таварам.

Конвэнцыя 4 мая 1910 г. аб забароне публікацыяў праціўных моральнасьці.

Парыская Міжнародная Конвэнцыя 20 мая 1883 г., перагледжаная ў Вашынгтоне ў 1911 годзе, аб ахове прамысловае ўласнасьці.

Міжнародная Бэрнская Конвэнцыя 9 верасьня 1886 году, перагледжаная ў Бэрліне 15 лістапада 1908 г. і дапоўненая дадатковым пратаколам, падпісаным у Бэрне 20 сакавіка 1914 г. аб ахове літэратурных і мастацкіх твораў.

## АНЭКС II.

Мадрыдзкае паразуменьне 14 красавіка 1891 г. аб забароне падаваньня фальшыва паходжаньня тавараў, перагледжанае ў Вашынгтоне ў 1911 г.

Мадрыдзкае паразуменьне 14 красавіка 1891 г. аб міжнароднай рэестрацыі фабрычных знакоў, перагледжанае ў Вашынгтоне ў 1911 г.

### АРТЫКУЛ 20.

Усе правы і прывілеі, прызнаныя саюзным і ставарышаным Гаспадарствам, будуць належаць нароўні ўсім Гаспадарствам—Сябром Лігі Народаў.

### АРТЫКУЛ 21.

Польшча вазьме на сябе адпавядальнасць за часьць расейскага публічнага даўгу і за ўсе іншыя фінансавыя абавязаньні расейскага Гаспадарства, адпавядальнасьць, якую акрэсьліць асобная Конвэнцыя паміж саюзнымі і ставарышанымі Галоўнымі Дзяржавамі з аднаго боку і Польшчаю

з другога боку. Гэтыя Конвэнцыі прыгатовіць Камісія, вызначаная спомненымі Дзяржавамі. У выпадку, калі-б Камісія не дайшла да паразуменьня, спрэчныя пытаньні будуць зараз-жа прадложаны на трацейскі суд (sąd rozjemczy) Лігі Народаў.

ГЭТЫ ТРАКТАТ, якога тэксты францускі і ангельскі будуць абавязваючымі, будзе ратыфікованы. Адтрымае абавязальную моц адначасна з Трактатам з Нямеччынай.

Ратыфікацыя будзе зложана ў Парыжы.

Дзяржавы, ўрад якіх мае прабываньне ня ў Эўропе, будуць магчы абмежавацца паведамленьнем Ураду Францускае Рэпублікі цераз свайго дыплёматычнага прадстаўніка ў Парыжы, што іхняя ратыфікацыя была дана і, ў гэтым выпадку, павінны даставіць акт, як толька гэта будзе магчымым.

Будзе зроблены пратакол злажэньня ратыфікацыі.

Францускі Урад даставіць усім Дзяржавам, якія падпісалі Трактат, копію пратаколу злажэньня ратыфікацыі.

У ДАКАЗ ЧАГО пералічаныя поўнамоцнікі гэты Трактат падпісалі.

Дзеялася ў Вэрсалі дваццаць восьмага чэрвеня тысяча дзевяцьсот дзевятнаццатага

году; адзіны экзэмпляр будзе паложаны ў архівах Ураду Француская Рэспублікі, а аўтэнтычныя копіі будуць выданы кожнай з Дзяржаваў, якія Трактат надпісваюць.

WOODROW WILSON, ROBERT LANSING, HENRY WHITE, E. M. HOUSE, TASKER H. BLISS, D. LLOYD GEORGE, A. BONAR LAW, MILNER, ARTHUR JAMES BALFOUR, GEORGE N. BARNES, CHAS. J. DOHERTY, ARTHUR L. SIFTON, W. M. HUGHES, JOSEPH COOK, LOUIS BOTHA, J. CHR. SMUTS, ED. S. MONTAGU, SANGA SINGH, MAHARAJA DE BIKANER, G. CLEMENCEAU, S. PICHON, L. L. KLOTZ, ANDRÈ TARDIEU, JULES CAMBON, SIDNEY SONNINO, IMPERIALI, SILVIO CRESPI, SAIONZI, N. MAKINO, S. CHINDA, K. MATSUI, H. IJUIN, I. J. PADEREWSKI, ROMAN DMOWSKI.

---

У мысль Уставы Сойму Польскае Рэспублікі 31 ліпня 1919 г., азнаёміўшыся з пастановамі гэтага Трактату і разважыўшы іх, Трактат гэты мы слушным прызналі і прызнаём, заяўляем, што ён прыняты, ратыфікованы і пацьверджаны і дакляруем (przyrzekamy) прыстасоўваць яго акуратна (stosować go ściśle).

У даказ гэтага выдалі мы гэты акт з прылажэньнем дзяржаўнай пячаткі (opatrzony pieczęcią państwową).

ў Варшаве, 1 верасьня 1919 г.
(падпісана:)
*J. Piłsudski.*

(przez Naczelnika Państwa)
Начальнікам Дзяржавы;

Старшыня Рады Міністраў,
Міністар Заграничных Справаў
*I. J. Paderewski.*

---

# ПРАТАКОЛ

**злажэньня ратыфікацыйных дакумэнтаў Трактату, падпісанага ў ВЭРСАЛІ 28 чэрвеня 1919 году паміж Злучанымі Штатамі Амэрыкі, Брытанскаю Імпэрыяй, Францыяй, Італіяй і Японіяй з аднаго боку і Польшчаю — з другога.**

У выкананьне канцавых пастановаў Трактату, падпісанага ў Вэрсалі 28 чэрвеня 1919 г. паміж Злучанымі Штатамі Амэрыкі, Брытанскаю Імпэрыяй, Францыяй, Італіяй і Японіяй з аднаго боку і Польшчаю з другога, ніжэйпадпісаныя сабраліся ў Міністэрстве Заграничных Справаў у

Парыжы дзеля дакананьня злажэньня ратыфікацыйных дакумэнтаў і даручэньня іх Ураду Францускае Рэспублікі.

Ратыфікацыйныя дакумэнты альбо паведамленьні аб высылцы іх зложаны:

Брытанскаю Імпэрыяй,

Францыяй,

Італіяй,

Японіяй (дакумэнт будзе дастаўлены пасьля)

і Польшчаю;

пасьля, пераканаўшыся, што яны ў добрай і належнай форме, перадалі іх Ураду Францускае Рэспублікі дзеля злажэньня ў яго архівах на перахаваньне.

Згодна з вышэйпералічанымі канцавымі пастановамі, Францускі Урад паведаміць дзяржавы, якія ўгаварваюцца, аб злажэньні ратыфікацыі.

У доказ чаго ніжэй падпісаныя зрабілі гэты пратакол і прылажылі свае пячаткі.

Дзеялася ў Парыжы 10-га студня 1920 г. ў шаснаццаць гадзін пятнаццаць мінют.

(L. S.) D. LLOYD GEORGE,
(L. S.) G. CLEMENCEAU,
(L. S.) F. NITTI,
(L. S.) K. MATSUI,
(L. S.) ST. PATEK.

---

